*Нагадваем, 26 сакавіка — апошні дзень падпіскі на «Народную Волю» на красавік. Калі ласка, не спазніцеся!*

# Народная Воля

**№ 23 (3764)**

22 сакавіка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВІНШУЕМ!

# Дваццаць пятае сакавіка, 95 гадоў таму...

*25 сакавіка 1918 года па ініцыятыве слыннага дзеяча нацыянальнага Адраджэння Антона Луцкевіча была абвешчана незалежная Беларуская Народная Рэспубліка.*

**З гісторыі нараджэння Беларускай Народнай Рэспублікі**

*1918 г. 19 лютага Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда абвяшчае сябе найвышэйшай уладай у Беларусі і вылучае са свайго складу ўрад — **Народны Сакратарыят Беларусі** на чале з **Язэпам Варонкам.***

*21 лютага апублікавана **Першая ўстаўная грамата** да народаў Беларусі.*

*9 сакавіка Выканкам Рады Усебеларускага з'езда выдае **Другую ўстаўную грамату,** у якой гаворыцца аб стварэнні **Беларускай Народнай Рэспублікі.** Заканадаўчую ўладу атрымлівае Рада (Іван Серада — старшыня), выканаўчую — Народны Сакратарыят.*

*24 сакавіка ўвечары на пасяджэнні Рады фракцыя Беларускай сацыялістычнай грамады ўнесла прапанову аб абвяшчэнні незалежнасці БНР. Абвясціў пра неабходнасць дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі кіраўнік фракцыі **Аркадзь Смоліч.***

***25 сакавіка 1918 года** раніцай была прынята рэзалюцыя аб незалежнасці Беларусі. І ў той жа дзень пасля артыкульнага абмеркавання была зацверджана **Трэцяя ўстаўная грамата да народаў Беларусі.** Гэтым гістарычным актам Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржавай.*



Першы ўрад БНР — Народны Сакратарыят: (злева направа, сядзяць) **Алесь Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка** (старшыня), **Васіль Захарка;** (стаяць) **Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Лявон Заяц.**

ЗАПРАШЭННЕ

## Збор 24 сакавіка ля кінатэатра «Кастрычнік» а 12-й гадзіне

Паколькі сёлета 25 сакавіка — дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі — прыпадае на панядзелак, аргкамітэт вырашыў правесці асноўнае святкаванне ў нядзелю 24 сакавіка. Дазвол на шэсце і мітынг ад сталічных улад атрыманы. Згодна з ім, ад кінатэатра "Кастрычнік" шэсце ад праспекта Незалежнасці і вуліцы Сурганава накіруецца ў Парк Дружбы народаў, дзе а 14-й гадзіне на канцэртнай пляцоўцы павінен пачацца мітынг.

ВІЗІТ

## Юстас ПАЛЕЦКІС: «Мінск гатовы вызваліць палітвязняў»

Дакладчык па Беларусі Еўрапейскага парламента Юстас Палецкіс з 18 па 21 сакавіка знаходзіўся ў Мінску, дзе збіраў матэрыялы для свайго даклада на пленарным пасяджэнні дэпутатаў Еўрапарламента.

Па выніках сустрэч як з прадстаўнікамі ўлады, так і з прадстаўнікамі апазіцыі ён зрабіў сенсацыйную заяву: *"Праблема вызвалення палітвязняў з'яўляецца пытаннем з пытанняў. І цяпер, наколькі я зразумеў, Мінск не з'яўляецца болей закасцянелым і не гатовым вырашаць гэтыя пытанні. На мой погляд, гэта цалкам магчыма. Але калі і як гэта адбудзецца, пакуль вельмі цяжка сказаць".*

Добрую, канешне, навіну пра гатоўнасць беларускага боку вызваліць палітвязняў паведаміў нам прадстаўнік Еўрапарламента. Але калі Мінск гатовы іх вызваліць, то чаму не вызваляе? Што замінае гэтаму?

СМЕХАТУРА

## Вось дык падтрымка!

*Дапамога па беспрацоўі ў лютым склала 16,6 долара*

Памер дапамогі па беспрацоўі ў лютым 2013 года склаў 143,5 тысячы рублёў, ці толькі 15,1 працэнта бюджэту пражытачнага мінімуму.

Такім чынам, у валютным эквіваленце дапамога роўная 16,6 долара ЗША. Зразумела, што на такія грошы нельга пражыць і тыдзень, не тое што месяц. Але захоўваць такую смешную суму для дзяржавы мае сэнс. З аднаго боку, ніхто і не пойдзе рэгістравацца беспрацоўным, каб атрымліваць такія грошы, а значыць, заўсёды можна адрапартаваць, што беспрацоўя ў краіне няма. Але, з другога боку, для "знешняй карцінкі" заўсёды можна сцвярджаць, што мы цывілізаваная краіна і беспрацоўных дзяржава не кідае на галодную смерць.

ПАЛІТЫКА

## Нават у Зімбабвэ разумеюць, што вечным прэзідэнтам быць нельга

Жыхары Зімбабвэ, адной з самых адсталых краін Афрыкі, ухвалілі абмежаванне на колькасць прэзідэнцкіх тэрмінаў.

За тое, што прэзідэнтам нельга быць вечна, прагаласавалі амаль 95 працэнтаў удзельнікаў рэферэндуму, які адбыўся ў гэтай краіне. Цяпер у Канстытуцыю Зімбабвэ будуць унесены змены, паводле якіх прэзідэнт не зможа займаць сваю пасаду даўжэй двух пяцігадовых тэрмінаў запар. Акрамя таго, на рэферэндуме былі адобраны і іншыя змены ў асноўны закон краіны — у прыватнасці, будуць пашыраны паўнамоцтвы парламента, а таксама скасаваны пост прэм'ер-міністра: прэзідэнт і будзе адказваць за тое, што адбываецца ў эканоміцы краіны.

Дарэчы, вельмі слушнае рашэнне для выпадкаў, калі краіна кіруецца "моцнай рукой" і прэм'ер у сваіх дзеяннях звязаны па руках і нагах кіраўніком дзяржавы. Вось у Зімбабвэ і вырашылі, што калі прэзідэнт набраў сабе паўнамоцтваў — то няхай сам і адказвае.

Нагадаем, што зараз Зімбабвэ кіруе адыёзны **Роберт Мугабэ,** які залічаны ў спіс сусветных дыктатараў. Ён займае пасаду прэзідэнта з 1987 года. І, дарэчы, па новым законе, можа балатавацца на новы тэрмін. Бо змены ў Канстытуцыю адваротнай сілы не маюць. Адлік пачынаецца з чыстага ліста.

КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

## І ў Судане зрабілі высновы

У Судане таксама зрабілі высновы з "арабскай вясны" і зразумелі, што нельга даводзіць сітуацыю да бунтаў, да крыві, да гвалтоўнага вызвалення вышэйшай кіруючай пасады ў краіне.

Амар Башыр, які ўзначальвае Судан 20 гадоў, аб'явіў, што не мае намеру балатавацца на пост прэзідэнта зноў.

*"Хопіць. Народ мае патрэбу ў новым пакаленні кіраўнікоў, каб працягнуць шлях наперад",* — сказаў Башыр.

Нам бы так!

ДАРЭЧЫ

## Аляксандр Лукашэнка ўпусціў шанц прарвацца ў Еўропу

Так, Аляксандр Лукашэнка ўпусціў шанц прарвацца ў Еўропу, хаця мог бы аказацца ў адной кампаніі з прэзідэнтамі вядучых заходніх краін на цырымоніі інтранізацыі новага Папы Рымскага Францішка.

Ватыкан не рассылаў ніякіх запрашэнняў на гэтае ўрачыстае мерапрыемства. Прысутнічалі тыя, хто прыбыў. Па-першае, гэта былі ўсе пяць найвышэйшых прадстаўнікоў дзяржаўнага кіраўніцтва Італіі на чале з прэзідэнтам. Таксама ў Рым прыбыў віцэ-прэзідэнт ЗША Джозэф Байдэн (першы каталік на гэтай пасадзе). Ён, дарэчы, патлумачыў, што Барак Абама не змог прыехаць толькі таму, што ажыццяўляе важную паездку ў Ізраіль. Зразумела, што прысутнічалі прэзідэнты лацінаамерыканскіх дзяржаў, бо Папа Францішак — першы кардынал з Лацінскай Амерыкі, які ўзначаліў Касцёл.

Еўропу прадстаўлялі прэзідэнты Польшчы, Славеніі, Сербіі, канцлер ФРГ Ангела Меркель, прэм'ер-міністры Францыі Жан-Марк Эйро і Іспаніі Марыяна Рахой, каралеўская пара Бельгіі, князь Манака Альбер II, герцаг Глостарскі прынц Рычард (стрыечны брат каралевы Вялікабрытаніі Лізаветы II і яе асабісты прадстаўнік) і іншыя дзеячы. Напрыклад, палічыў патрэбным прыбыць на цырымонію прэзідэнт Арменіі Серж Саргсян. А Даля Грыбаўскайтэ, прэзідэнт Літвы, падарыла Папе двухметровую вярбу.

Сярод тых, хто прыбыў на цырымонію, быў і прэзідэнт Зімбабвэ Роберт Мугабэ. Ён, як і беларускі лідар, з'яўляецца неўязным у Еўрасаюз з-за шматлікіх парушэнняў правоў чалавека ў гэтай краіне. Аднак Мугабэ вылецеў у Рым, нягледзячы на санкцыі. І пусцілі. Бо Ватыкан — гэта не Еўрасаюз, ён па-за палітыкай.

**Алена ДАВЫДАВА.**

## Плюс 8 градусаў на працягу трох дзён — і ацяпленне ў кватэрах будзе адключана

У гэтым годзе цяпло ў кватэрах будуць адключаць па новых правілах. Калі раней для спынення ацяпляльнага сезона трэба было дачакацца, каб пяць дзён запар сярэднясутачная тэмпература на вуліцы трымалася на ўзроўні плюс 8 градусаў і вышэй, то зараз дастаткова трох дзён.

Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі паведаміла, што адключэнне ацяплення ў гэтым годзе традыцыйна намечана на сярэдзіну красавіка.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Дела сердечные

*Инфаркты и инсульты значительно "помолодели", а сердечно-сосудистые заболевания по-прежнему остаются главной причиной смертности в Беларуси.*



*— Почему количество молодых гипертоников и сердечников увеличивается?*

*— Какие вредные привычки губят сердце и сосуды?*

*— Возможна ли профилактика сердечно-сосудистых заболеваний?*

*— Могут ли современные лекарственные препараты спасти от инсульта?*

*— Как часто нужно проходить профилактическую диагностику?*

*— Где в Беларуси можно пройти полное обследование сердца и сосудов?*

*На эти и другие вопросы ответит **доктор медицинских наук, профессор кафедры кардиологии и ревматологии БелМАПО, врач-кардиолог высшей категории медицинского центра "ЛОДЭ" Тамара Дмитриевна ТЯБУТ.***

*Звоните во вторник **26 марта с 15.00 до 16.30 по телефону 328-68-41.***

*Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте **nv@promedia.by** с пометкой "Прямая линия".*

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Восемь лет беззакония,

## *или Открытое письмо нескольким министрам о том, как их подчиненные позорят государство*

Прошло 20 лет с тех пор, как мы обрели независимость и в стране была принята Конституция, согласно которой **Республика Беларусь является правовым государством**. Все это время только и слышим с высоких трибун, что именно в таком государстве мы как раз и живем. Однако за последние 8 лет я на примере своего уголовного дела в полной мере убедилась, что до правового государства нам еще очень и очень далеко.

Возбужденное в отношении меня 13.12.2005 года уголовное дело не прекращено по настоящее время. Наличие кредиторской задолженности у руководимого мною предприятия было расценено как уголовное преступление, совершенное лично мною. Абсурдность ситуации привела к тому, что за это время одни и те же мои действия **8 раз (!)** были переквалифицированы (последовательно отменялись судебные решения и предъявлялись новые обвинения) по **шести (!)** разным статьям Уголовного кодекса РБ:

2005 г. — "*мошенничество*" и "*служебный подлог*",

2006 г. — "*хищение путем злоупотребления служебными полномочиями*" и "*злоупотребление властью или служебными полномочиями*",

2007 г. — "*уклонение от погашения кредиторской задолженности*",

2008 г. — повторно "*хищение путем злоупотребления служебными полномочиями*" и "*злоупотребление властью или служебными полномочиями*",

2009 г. — "*причинение имущественного ущерба без признаков хищения*".

Все судебные решения, вынесенные в отношении меня Президиумом Верховного суда, 26.11.2010 г. были отменены, и дело направили на новое разбирательство. Однако за два года (!) оно не только не рассмотрено, но и бесславно привело к необходимости его рассмотрения с самого начала вновь назначенным судьей. А это значит, что только через 2—3 года может быть поставлена последняя точка.

Председатель Верховного суда В.О.Сукало как-то заявил, что ***"человек не может и не должен находиться в ожидании судебного решения по своему делу 2—3 года***". Я же три с половиной года провела в местах лишения свободы, а всего вот уже **восемь лет** нахожусь в состоянии не просто правовой неопределенности, а правового бесправия и правовой беспомощности государства.

### Кто он, следователь?

**Уважаемый министр внутренних дел!**

Причиной возбуждения уголовного дела, как ни парадоксально звучит, формально послужило наличие кредиторской задолженности у возглавляемого мною ООО "Виторжье" (крупного оптово-розничного торгового предприятия), а фактически — общая и **правовая неграмотность** сотрудников МВД. Так, начало делу дал рапорт оперуполномоченного Новополоцкого ГОВД о том, что, по имеющимся у него сведениям, ООО "Виторжье" имеет долги и не имеет возможности по ним рассчитаться. Этот оперуполномоченный, как выяснилось из его показаний в суде, имел за плечами лишь полугодичный курс бухгалтерского учета и заочное юридическое образование. Он не знал законодательство, регламентирующее хозяйственную деятельность, и не имел ни малейшего понятия о том, что неплатежеспособность — это расчетная величина, которая не может быть поймана с поличным или задержана при попытке скрыться.

Следователь, возбудивший уголовное дело, по своему базовому образованию оказался преподавателем истории и обществоведения (бывший замполит Советской армии). На момент возбуждения моего уголовного дела он еще только учился заочно на юридическом факультете ПГУ.

Не буду утомлять вас перечислением всех нарушенных законов и инструкций. Могу лишь сказать, что определение факта неплатежеспособности предприятия, признаков различного вида криминальных банкротств находится в юрисдикции органов Департамента финансовых расследований, антикризисных управляющих, экспертов, хозяйственных судов. Если бы Ваши подчиненные, господин министр, знали, что в соответствии с законодательством им запрещено вмешиваться в деятельность субъектов хозяйствования, то подобного беззакония не произошло бы.

Тем не менее под руководством следователя мешками и коробками была изъята и вывезена вся бухгалтерская документация предприятия. Потом шесть лет мне понадобилось на поиски этих реабилитирующих меня документов, и только в 2011 г., после обращения к министру Кулешову, их следы обнаружили. Однако, как выяснилось, значительная часть документации безвозвратно утеряна.

Результат — более восьми лет ни предварительное следствие, ни государственные обвинители, ни судьи, ни эксперты не могут ответить на вопрос: были ли в моих действиях как руководителя ООО "Виторжье" какие-либо нарушения, влекущие уголовную ответственность?

Как же такое могло произойти? Да очень просто! Разве когда-нибудь кого-нибудь наказали за то, что документы просто сваливаются в коробки и вывозятся? При этом в лучшем случае в протоколах указывается, что были изъяты "*различные бухгалтерские документы*" в таком-то количестве папок. Все!

В моем случае при выяснении обстоятельств изъятия документов бывший оперуполномоченный Новополоцкого ГОВД на вопрос судьи ответил: "*Мы рассматривали папку с документами как один документ*". И уточнил: "*У нас сложилась такая практика*".

Находящиеся на складах ООО "Виторжье" продукты питания и иные товарно-материальные ценности предприятий-поставщиков (ни много ни мало на сумму более 1,6 млрд бел.руб.) были признаны следователем вещественными доказательствами.

Казалось бы, чего проще — закон обязывает следователя сдать продукты питания на реализацию в магазины и принять меры для сохранности остального до передачи дела в суд. (Забегая вперед, скажу, что мое дело только по первой инстанции прошло через трех судей, но ни один даже не поинтересовался, есть ли в наличии эти "доказательства".) Однако до суда мало что сохранилось. Следователь, будучи допрошенным в качестве свидетеля, так и заявил в суде: мол, не посчитал необходимым это делать, поскольку "*подумал, что у них там на базе и так все охраняется*". Еще бы, ведь по его версии все товарно-материальные ценности лично мною и были похищены!

Остается только догадываться, знал ли о столь вопиющих фактах нарушения законности начальник Новополоцкого ГОВД, чьи подчиненные из отдела ОБЭП и начали бороться за улучшение показателей. Вероятно, не знал, поскольку и его базовое образование (это было бы смешно, если бы не привело к таким последствиям) — инженер-строитель (!).

Уважаемый министр, по собственному опыту могу сказать, что юридически грамотных сотрудников внутренних дел среднего звена в стране явно недостаточно. Так, следователь по моему уголовному делу умудрился разослать поручения, в которых обязал руководителей региональных РОВД и ГОВД проинформировать наших деловых партнеров о том, что я совершила на их предприятиях хищения (как об установленном в судебном порядке факте), а также признать предприятия-поставщики гражданскими истцами и "***истребовать***" у них заявления о привлечении меня к уголовной ответственности. В результате **только один (!)** из нескольких десятков милицейских начальников сообщил следователю, что право признания юридического лица гражданским истцом закон устанавливает только для следователя, но никак не для иных должностных лиц. Остальные же руководители безропотно пошли на прямое нарушение закона, совершенно не вникая в суть дела и руководствуясь порочным, но устоявшимся в милицейской среде и хорошо известным принципом: "*Сейчас я ему помогу, а потом, глядишь, и они там, в Новополоцке, мне помогут!*"

"Информирование" о совершенном мною хищении продукции и прямо запрещенное законами "*истребование*" у руководителей предприятий-поставщиков заявлений о привлечении меня к уголовной ответственности позволило сотрудникам ОБЭП и следователю раздуть масштабное, "громкое" и "резонансное" дело. Хотя абсолютное большинство "проинформированных" руководителей предприятий отказывались писать заведомо ложные доносы, однако тогда угрожали привлечением к ответственности уже их самих, о чем ваши подчиненные даже не постеснялись написать в повторных поручениях об оперативно-розыскных мероприятиях.

***(Окончание на 3-й стр.)***

Народная Воля http://www.nv-online.info
22 САКАВІКА 2013 г.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Кто из белорусов засветился с деньгами на Кипре?

*В последние дни "кипрская" тема во всех новостных блоках на первых позициях — обсуждают возможное введение налога на депозиты в местных банках по требованию властей ЕС.*

*Есть ли на Кипре капиталы белорусов?*

*Мнения аналитиков здесь расходятся.*

*Одни говорят, что белорусов на Кипре прежде всего интересует недвижимость. Это подтверждают и руководители кипрских агентств по продаже жилья, и белорусские риелторы, заявлявшие, что в последние годы все больше состоятельных белорусов приобретают жилье на острове.*

*Другие аналитики считают, что деньги белорусов на Кипре все же присутствуют. И со знанием дела говорят о том, что "некоторые белорусские бизнесмены вывозили свои капиталы за границу, в том числе и на Кипр, а затем возвращали на родину под видом иностранных инвестиций".*

*"Народная Воля" вспомнила некоторых белорусов, которые уже засветились на Кипре с деньгами.*

## «Благодарность» Александру Боровскому перечислили на кипрский счет

Во время одного из судебных заседаний в Верховом суде по делу экс-главы "Белнефтехима" неожиданно всплыл кипрский счет.



В зале суда **Александр Боровский** рассказывал, что сотрудники КГБ задержали его дочь. По информации следователей КГБ, в одном из кипрских банков на имя дочери Боровского был открыт счет, на котором лежало примерно 500 тысяч долларов. Понятное дело, возник вопрос, откуда деньги. В процессе предварительного следствия Боровский рассказал, что в декабре—январе 2007 года к нему подошел представитель одной известной фирмы, занимающейся гостиничным бизнесом и строительством. Боровский в свое время оказывал этому человеку консультационные услуги. И тот сказал, что получил премию, которой хочет поделиться с Боровским — так сказать, отблагодарить его за полученные советы. Боровский пояснил, что у него нет счета в банке, и порекомендовал открыть счет на имя своей дочери. Через какое-то время Боровский попросил дочь проверить счета, однако пластиковая карточка, которую ей передали, почему-то не сработала ни в Вильнюсе, ни в Киеве, куда она ездила. Что это за карта и что за деньги, Боровский дочери якобы не говорил.

Любопытно, что позже на одном из допросов в ходе предварительного следствия Боровский отказался от данных им показаний относительно происхождения 500 тысяч долларов и заявил, что эти деньги он взял взаймы на постройку загородного дома у своего друга, который живет в Риге...

Через некоторое время в суде также прозвучало, что эти самые 500 тысяч затем куда-то пропали. А куда — Боровский якобы не знает.

## Кипрская тень Владимира Пефтиева

**Владимир Пефтиев** — не публичная персона. Но именно он возглавляет рейтинг 200 самых богатых предпринимателей Беларуси, который вместе с экспертами составлял сайт "Ежедневник".

Некоторое время назад тогда еще владелец компании по продаже вооружения "Белтехэкспорт" попал в оперативную разработку МВД. Об этом в интервью российскому журналу "Огонек" рассказал **Вячеслав Дудкин,** который несколько лет



руководил антикоррупционным подразделением МВД Беларуси и внимательно следил на деятельностью бизнесмена (сейчас Дудкин живет за пределами Беларуси).

*"В частности, впервые под угрозой привлечения к уголовной ответственности он оказался в связи с громким расследованием в отношении руководства компании "Мобильная цифровая связь" (МЦС) (оператор сотовой связи Velcom),* — рассказывал год назад Дудкин. — *Обстоятельства этого скандального уголовного дела до сих пор известны лишь в узких кругах. Если кратко, то главные учредители СП "ООО "МЦС" — белорусский спецэкспортер "Белтехэкспорт" (Владимир Пефтиев) и зарегистрированная на Кипре компания SB Telekom (она принадлежит Иду Самави) — при инвестировании в белорусскую экономику умудрились уклониться от уплаты в бюджет налогов и таможенных платежей. Это и послужило основанием для уголовного преследования виновных, в том числе заключения под стражу руководителей компании "МЦС", а также оказавшегося в то время в Беларуси хозяина SB Telekom Ида Самави. Владимир Пефтиев в тот момент сам чудом избежал ареста, успев выехать из страны. Самави, оказавшись в белорусском СИЗО, мгновенно "раскаялся" и, не раздумывая, обменял свободу на крупный пакет акций компании "МЦС".*

В сентябре 2012 года правительство официально расторгло инвестдоговор с ЧУП "БТ Телекоммуникации" (создано в 2006 году компанией ЗАО "Белтехэкспорт", владельцем которой был Пефтиев) и зарегистрированной на Кипре компанией GTECH. Договор был заключен в 2011 году и предполагал, что инвестор создаст в Беларуси мониторинговый центр в сфере игорного бизнеса. Но в июне 2011 года в отношении ЧУП "БТ Телекоммуникации" и ЗАО "Белтехэкспорт" Евросоюзом введены экономические санкции.

## Георгий Кашкан на Кипре поправляет здоровье

Уже много лет живет на Кипре бывший сотрудник Управления делами президента **Георгий Кашкан**.

Как он оказался на Кипре? Можно сказать, случайно.

Георгий Кашкан родился 19 октября 1949 года. Окончил Высшую школу профдвижения, Академию управления при президенте по специальности "эко-



номист-менеджер". В Беларуси у Кашкана была весьма неплохая карьера. Судите сами: он работал старшим инженером, начальником отдела спецтреста "Белтеплоизоляция", замначальника управления капитального строительства и переселения Госкомчернобыля, заместителем управляющего делами президента. В этой должности курировал деятельность скандально известной фирмы "Торгэкспо" и представительство Фонда Махмуда Эсамбаева. Покинул этот пост после автокатастрофы.

Был депутатом Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, членом Комиссии по государственному строительству, местному самоуправлению и регламенту.

Еще пару лет назад имя Георгия Кашкана фигурировало в списке самых состоятельных людей Беларуси — некие эксперты оценили его состояние в 19,4 миллиона долларов. Соответствует это действительности или нет — неизвестно, однако список "долларовых миллионеров" и сегодня легко найти в интернете.

На странице Георгия Кашкана в одной из социальных сетей написано: "*В настоящее время живу на Кипре, так как в 1996 году перенес автомобильную аварию и был спасен благодаря лечению в Германии. По рекомендации нейрохирурга Шурихта переехал жить на Кипр в 1997 году. С 1996-го по 1998 год перенес 13 черепно-мозговых операций, и только жизнь на Кипре помогает восстановить остатки здоровья".*

Через некоторое время после исчезновения Кашкана из белорусского информационного пространства его имя упоминалось в некоторых публикациях. Писали, что авария, в которую он попал, была не совсем случайной.

*"До 1996 года одним из заместителей Ивана Титенкова был его очень близкий друг Георгий Кашкан,* — писал в одной из своих статей журналист **Михаил Подоляк**, которого больше пяти лет назад депортировали из Беларуси в Украину. — *Кстати, именно Кашкан курировал всю систему фирм "Торгэкспо". После того как Михаил Мясникович преднамеренно допустил утечку информации по "Торгэкспо" в печать, транзитные сделки были моментально заморожены. Российские партнеры Кашкана лишились десятков миллионов долларов. На самого Кашкана тогда же надели наручники. Причем сделано это было прямо в Администрации президента. Но арест не состоялся. Во-первых, Иван Титенков в ультимативной форме потребовал отпустить Кашкана. В противном случае он грозился подать в отставку — со всеми вытекающими последствиями. Во-вторых, россияне, лишившиеся денег, мягко намекнули, что скандал надо спустить на тормозах, иначе в Беларуси может начаться самый настоящий "отстрел должников". Впрочем, Кашкан просто так не отделался. Известно, что однажды в его "Мерседесе" оказались перерезанными кое-какие "проводки"..."*

В прессе озвучивались и другие подробности из жизни бывшего высокопоставленного чиновника. Писали, что после аварии он передал своим "партнерам по бизнесу" "*подробное изложение обстоятельств торговли таможенными льготами, в том числе с указанием роли высших государственных чиновников, а также кому, куда и какие суммы направлялись в процессе дележа, и приложил подтверждающие его рассказ документы. Затем один из экземпляров он вручил своим "партнерам по бизнесу" и сказал: "Если с моей женой, моим сыном или моей собакой хоть что-нибудь случится, эта информация всплывет". Сейчас он живет за границей и прекрасно себя чувствует. Впрочем, не бедствуют и остальные..."*

Несмотря на то что о Кашкане давным-давно ничего не слышно, в Беларуси в некоторых кругах его называют одним из "кошельков режима". Ложь это или правда — не понятно.

"Народная Воля" связалась с Георгием Михайловичем и предложила ответить на ряд вопросов, в том числе и тех, которые касаются его прошлого. Вначале он не отказал, но, получив примерный список вопросов, ответил: *"Без комментариев"...*

**Марина КОКТЫШ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Верце ўсё ж «дэструктыўным рэсурсам», а не міліцэйскім*

Міністэрства ўнутраных спраў прызнала, што затрыманы начальнік упраўлення ўласнай бяспекі МУС падпалкоўнік Уладзімір Кротаў.

Першая інфармацыя пра гэты гучны арышт з'явілася ў інтэрнэце яшчэ ў мінулыя выхадныя. Але рэакцыя МУС была катэгарычнай. *"16 сакавіка 2013 года ў інтэрнэце на дэструктыўных рэсурсах было размешчана паведамленне аб нібыта затрыманні і арышце начальніка галоўнага ўпраўлення ўласнай бяспекі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь падпалкоўніка міліцыі Уладзіміра Кротава,* — гаварылася ў паведамленні, размешчаным на сайце міліцэйскага ведамства. — *Міністэрства ўнутраных спраў афіцыйна заяўляе, што гэтая інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці". Акрамя таго, у МУС адзначалі, што "распаўсюджванне недакладнай, а часам і лжывай інфармацыі на так званых "апазіцыйных" інтэрнэт-рэсурсах носіць пастаянны характар".*

Як высветлілася, недакладную інфармацыю распаўсюдзіла само міністэрства. Ці то спадзеючыся, што яшчэ ўдасца выратаваць свайго высокага кіраўніка, ці то сапраўды не ведаючы пра яго арышт. Але трапілі ў няёмкую сітуацыю, і ў выніку прыйшлося прызнаць, што ненавісныя інтэрнэт-рэсурсы не памыліліся.

*"На падставе сабраных і накіраваных у Следчы камітэт матэрыялаў у адносінах да Уладзіміра Кротава распачата крымінальная справа па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч.2 арт.426 Крымінальнага кодэкса Беларусі (перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў, здзейсненае з карыслівай ці іншай асабістай зацікаўленасці)",* — паведаміла ў сераду ўсё тая ж прэс-служба МУС. Папрасіць прабачэння ў тых журналістаў, якіх палілі брудам у першай заяве, афіцэры прэс-службы не палічылі неабходным.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ДЫПКУР'ЕР

## *Прызначаны новы амбасадар Літвы ў Беларусі*



Ім стаў 46-гадовы Эвалдас Ігнатавічус. Свае абавязкі ён пачне выконваць з 8 красавіка.

Эвалдас Ігнатавічус — выпускнік факультэта філасофіі Вільнюскага ўніверсітэта. У МЗС Літвы працуе з 1991 года. Быў дарадцам амбасады Літвы ў Польшчы, паслом у Нямеччыне. У апошнія гады Ігнатавічус быў віцэ-міністрам, працаваў таксама дзяржсакратаром і сакратаром МЗС.

## *Беларуска стала чэмпіёнкай Еўропы па вольнай барацьбе*

21-гадовая Настасся Гучок у фінале спаборніцтваў, якія праходзяць у Тбілісі, перамагла расіянку Жаргалму Цыранкову ў вагавай катэгорыі да 59 кілаграмаў і стала чэмпіёнкай Еўропы.

Віншуем!

## *У Віцебску будуць выдаваць польскія візы*

Жыхары Віцебскай вобласці, якія едуць у Польшчу і хочуць атрымаць шэнгенскую візу, могуць зрабіць гэта ў латвійскім консульстве ў Віцебску.

У афіцыйным паведамленні МЗС Польшчы гаворыцца, што гэта сталася магчымым дзякуючы падпісанаму ў Рызе пагадненню паміж Польшчай і Латвіяй.

*"МЗС намагаецца выдаваць беларусам як мага болей віз, але гэта, на жаль, вельмі цяжка зрабіць з прычыны малой колькасці консулаў. Звароты да беларускіх улад з просьбай дазволіць павялічыць колькасць консулаў вынікаў не прынеслі",* — гаворыцца ў заяве МЗС Польшчы.

Летась польскія консульствы ў Мінску, Брэсце і Гродне выдалі беларускім грамадзянам 350 тысяч віз. Але атрымаць візу па-ранейшаму застаецца праблемай з-за вялікай колькасці жадаючых наведаць краіну-суседку.

ІХ НОРАВЫ

# Міліцыянер павінен быць сціплым і без барады

*Славуты загад №1 былога міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Навумава аб тым, што прадстаўнікі МУС павінны быць ветлівымі, адменены. Ніхто не верыў, што міліцыянеры па загадзе перастануць брыдкасловіць і паводзіць сябе груба, так яно і адбылося. Цяпер новы міністр даў ім новы загад — быць сціплымі.*

Міністр Ігар Шуневіч, які адмяніў загад свайго папярэдніка Уладзіміра Навумава, падпісаў новы дакумент, які рэгламентуе паводзіны міліцыянераў. Гэта загад, якім уводзяцца ў дзеянне Правілы прафесійнай этыкі. Дакумент ужо атрымаў неафіцыйную назву "загад аб сціпласці", бо вельмі шмат месца ў ім адведзена паводзінам супрацоўніка міліцыі не толькі на службе, але і ў побыце.

Так, на службе, напрыклад, "для супрацоўніка недапушчальныя дзеянні, здольныя нанесці шкоду ўзаемаадносінам у службовым калектыве, уключаючы:

— абмеркаванне загадаў, рашэнняў і дзеянняў старшых начальнікаў, што рэалізуюцца ў межах іх паўнамоцтваў;

— распаўсюджванне чутак, плётак і іншай неправеранай інфармацыі сумніўнага характару;

— прадузятае і неаб'ектыўнае стаўленне да калег;

— паддобрыванне начальства;

— прэтэнзіі на асаблівае стаўленне да сябе і незаслужаныя прывілеі;

— абяцанні, выкананне якіх знаходзіцца пад сумневам;

— перабольшанне сваёй значнасці і прафесійных магчымасцяў" і гэтак далей.

Правіламі не рэкамендуецца дэманстратыўна выстаўляць на працоўным месцы прадметы культу, даўніны, антыкварыяту, раскошы, падарункі, сувеніры, дарагія пісьмовыя прыборы і іншыя прадметы з дарагіх парод дрэва, каштоўных камянёў і металаў.

У непрацоўны час супрацоўнік МУС павінен быць "маральна бездакорным" і захоўваць "абачлівасць пры выбары сяброў і таварышаў". Супрацоўніку ў форменнай вопратцы "не рэкамендуецца наведваць рынкі, крамы, рэстараны, казіно і іншыя гандлёвыя аб'екты і забаўляльныя ўстановы, а таксама насіць сумкі, пакеты, скрынкі і іншыя прадметы гаспадарча-бытавога прызначэння, калі гэта не звязана з выкананнем службовых абавязкаў".

Таксама не рэкамендуецца "адрошчваць бараду, доўгія бакенбарды, насіць ювелірныя ўпрыгажэнні за выключэннем заручальнага пярсцёнка".

Пры праездзе ўсімі відамі гарадскога пасажырскага транспарту (акрамя таксі) "супрацоўніку ў форме не рэкамендуецца займаць месцы для сядзення".

Карацей, новы лозунг МУС — сціпласць. Напэўна, таму, што ўжо занадта стала біць у вочы, што міліцыянеры і прадстаўнікі некаторых іншых сілавых ведамстваў сталі ў нашай краіне нейкай асаблівай кастай.

**Алег СНОЎ.**

ЧУЛІ?

## *Бізнес на эвакуатарах*

У Мінску ўвялі новыя тарыфы на прымусовую эвакуацыю аўтамабіляў і захоўванне адбуксаваных аўто на стаянцы, якая ахоўваецца.



Пра гэта паведаміла кіраўнік прэс-службы ДАІ ГУУС Мінгарвыканкама **Таццяна Харлінская.**

Так, прымусовая адбуксоўка (эвакуацыя) з поўнай пагрузкай на эвакуатар транспартнага сродку на стаянку з аховай зараз абыходзіцца ў 380 тысяч рублёў за адну дастаўку.

Тое ж, але з частковай пагрузкай на эвакуатар — 300 тысяч рублёў за дастаўку.

Захоўванне прымусова адбуксаванага транспартнага сродку на спецыяльнай стаянцы каштуе:

— 1—3 сутак — па 50 тысяч рублёў за суткі;

— 4—10 сутак захоўвання — па 30 тысяч;

— 10 і наступныя суткі захоўвання — па 20 тысяч рублёў.

"Для многіх кіроўцаў пакаранне рублём працягвае заставацца самым эфектыўным", — падкрэсліла Харлінская.

Яна таксама дадала, што штраф за няправільную паркоўку зараз складае 100 тысяч рублёў пры першым парушэнні і 200 тысяч пры паўторным.

ЗНАЙ НАШИХ!

## *Дама — кавалер*

Преподаватель французского языка брестской СШ №15 Ирина Корнеева стала кавалером французского ордена "Академические пальмы".

Награда была вручена в Минске в посольстве Франции. Как гласит сопровождающий диплом, госпожа Корнеева удостоена ордена "за значительный вклад в динамизм франко-белорусского сотрудничества в области образования".

Орден "Академические пальмы" был учрежден еще декретом императора Наполеона в 1808 году. Он присуждается как преподавателям и членам преподавательского сообщества, так и лицам, не имеющим отношения к преподаванию, но внесшим значительный вклад в народное образование Франции. Вручается орден и иностранным подданным, активно способствующим распространению французской культуры в других странах. Кандидатуры для награждения рассматриваются в Совете ордена под председательством министра народного образования Франции. В Совет помимо министра входят один из членов Совета ордена Почетного легиона и главы инспекций Министерства образования. Список награжденных утверждает премьер-министр Франции.



**Фото Геннадия КОЗЛОВСКОГО.**

ТРАГІЧНАЯ ДАТА

## *70 гадоў таму, 22 сакавіка 1943 года, карнікі спалілі вёску Хатынь разам з жыхарамі*



Вось ужо 70 гадоў прайшло з таго дня, калі на мапе Беларусі з'явілася яшчэ адна незагойная рана. Хатынь стала трагічным сімвалам усіх беларускіх вёсак, што былі знішчаны фашысцкай карнай машынай.

Згодна з данымі апошніх даследаванняў, у гады вайны былі зруйнаваны каля 9 тысяч беларускіх паселішчаў. Больш за палову (каля 5 тысяч) знішчаны разам з жыхарамі, а некаторыя вёскі палілі па некалькі разоў.

Сёння ў Хатыні пройдуць жалобныя мерапрыемствы.

### ТЫМ ЧАСАМ

## *Каб памяталі...*

Да 70-й гадавіны знішчэння вёскі Хатынь была падрыхтавана база даных "Беларускія вёскі, спаленыя падчас Вялікай Айчыннай вайны". У базе даных можна знайсці інфармацыю аб знішчаных паселішчах, а таксама пабачыць ілюстрацыі ваенных часоў. У адным месцы сабраны ўнікальныя матэрыялы — даныя агентурнай разведкі, допыты сведак, дакументы з архіваў савецкіх і нямецкіх войскаў.

Зараз у базе змешчана інфармацыя аб 5445 вёсках, што былі знішчаны нацыстамі. Аўтары праекта спадзяюцца, што з дапамогай грамадзян спіс атрымаецца пашырыць. Пакуль жа азнаёміцца з сабраным матэрыялам можна на інтэрнэт-старонцы **www.db.narb.by**.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

З-ЗА КРАТАЎ

## *Турма ў турме*

*Аляксандра Францкевіча да канца тэрміну адбывання пакарання змясцілі ў "турэмную турму" — так званае ПКТ.*

Пра гэта паведаміла маці зняволенага Таццяна Францкевіч. Паводле яе слоў, Аляксандр пасля 20 сутак у штрафным ізалятары быў пераведзены ў памяшканне камернага тыпу. Гэта турэмныя камеры, у якіх сядзяць па чатыры чалавекі.

*"Яго свабода вельмі абмежавана тым, што прагулкі дазволены толькі на працягу гадзіны, а спатканні і перадачы не дазволены наогул",* — адзначыла маці палітычнага вязня.

У калоніі, куды Таццяна ездзіла на мінулым тыдні, ёй патлумачылі, што рэжым зняволення зменены да канца тэрміну пакарання. Такім чынам, маці не зможа ўбачыць сына аж да яго вызвалення.

Нагадаем, што ў маі 2011 года Аляксандр Францкевіч быў прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі па так званай "справе анархістаў". Яго абвінавацілі ў нападзе на шэраг дзяржаўных устаноў, а таксама ва ўзломе сайта Наваполацкага гарвыканкама. На судзе сваёй віны ён не прызнаў. Праваабаронцы прызналі Францкевіча палітычным зняволеным і патрабуюць яго неадкладнага вызвалення.

СЛЕДСТВА

## *Мінскія жахі*

У адной з самых таямнічых крымінальных спраў, калі ў халадзільніку памерлай ад раку мінчанкі былі знойдзены замарожаныя трупікі немаўлят, з'явілася першая інфармацыя для разважанняў.

Эксперты высветлілі, што біялагічнай маці гэтых дзяцей з'яўлялася памерлая жанчына. *"Біялагічны бацька таксама ўстаноўлены, аднак інфармацыя пра яго асобу з'яўляецца таямніцай следства",* — паведаміў афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску **Аляксандр Герасімаў.**

Паводле яго слоў, *"у ходзе складанай комплекснай экспертызы дакладна ўстаноўлена, што ўсе трое немаўлят народжаны даношанымі, але мёртвымі".* Іх смерць наступіла незадоўга да традыцыйнага тэрміну нараджэння ў выніку ўнутрычэраўнага кіслароднага галадання. Па шэрагу прыкмет эксперты мяркуюць, што дзеці народжаны па-за медыцынскімі стацыянарамі.

Расследаванне дадзенай крымінальнай справы працягваецца, адзначыў прадстаўнік УСК. Сапраўды, так і не зразумела, навошта жанчына захоўвала ў маразілцы мёртвых дзяцей і чаму падчас цяжарнасці не звярталася да ўрачоў.

